АКЦЫІ

# Па новым маршруце…

*У Мінгарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне 26 красавіка традыцыйнай акцыі «Чарнобыльскі Шлях».*

Як паведаміў БелаПАН адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД) **Дзяніс Садоўскі**, заяўка пададзена 3 красавіка. Подпісы пад ёй паставілі намеснікі старшыняў Партыі БНФ **Ігар Лялькоў**, Беларускай партыі «Зялёныя» **Дзмітрый Кучук**, руху «За Свабоду» **Юрый Меляшкевіч**, а таксама прадстаўнікі аргкамітэта па стварэнні БХД **Аляксандр Кавалькоў** і кампаніі «Гавары праўду!» **Віталь Лакотка**.

Заяўнікі просяць гарадскія ўлады дазволіць збор удзельнікаў акцыі каля Тэатра оперы і балета і наступнае шэсце па вуліцы Максіма Багдановіча да чарнобыльскай капліцы, размешчанай у раёне плошчы Бангалор.

*«Лічым, што гэты маршрут падыходзіць і нам, бо ён новы, і ён можа задаволіць уладу. Зразумела, што пасля 25 сакавіка мірна прайсціся па цэнтры нам бы ніхто не даў. Калі акцыя будзе дазволена, мы гарантуем яе мірнае правядзенне»*, – сказаў Садоўскі.

ПРЭСІНГ

# «Журналісты «Белсата» працуюць у штатным рэжыме…»

*Ператрусы і канфіскацыя тэхнікі, якія нядаўна адбыліся ў сталічных офісах тэлеканала "Белсат", які з'яўляецца часткай Telewizja Polska, не здолелі паралізаваць яго працу.*
*Пра гэта ў размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" распавёў афіцыйны прадстаўнік тэлеканала ў Беларусі **Аляксей Мінчонак.***

Фармальнай падставай для ператрусаў і канфіскацыі працоўнай тэхнікі журналістаў стала адміністрацыйная справа, якая расследуецца Першамайскім РУУС Мінска.

– Гэта справа тычыцца праваўладання таварным знакам "Белсат", – распавядае Аляксей Мінчонак. – Адпаведная заява ад чалавека, які ў свой час зарэгістраваў таварны знак "Белсат", паступіла ў міліцыю ў сярэдзіне сакавіка. Падчас вобыскаў, якія прайшлі ў нашых офісах, міліцыянерамі было канфіскавана каля дзясятка камп'ютараў і дзве асабістыя відэакамеры апаратараў. Адзначу, што ніякіх папер, звязаных з канфіскацыяй тэхнікі, нам на рукі не аддалі. Аб тым, што яна канфіскавана, ёсць толькі пазнакі ў міліцэйскіх дакументах. Днямі мы з прадстаўнікамі Беларускай асацыяцыі журналістаў пойдзем да міліцэйскага начальства, каб даведацца пра лёс канфіскаванай маёмасці.

**– Ці можна сказаць, што канфіскацыя тэхнікі паўплывала на працоўны працэс журналістаў тэлеканала?**

– Не буду разгалошваць тэхнічныя моманты, толькі адзначу: журналісты "Белсата" працягваюць сваю працу ў штатным рэжыме. Ператрусы і канфіскацыя тэхнікі ніяк не паўплывалі на нашу працу. Сама атака на "Белсат" – гэта якраз-такі сведчанне таго, што нашы журналісты працуюць вельмі добра і вельмі актыўна.

На маю думку, за ператрусамі і канфіскацыяй стаіць наша актыўная праца на нядаўніх акцыях пратэсту супраць дэкрэта №3, якія пракаціліся па ўсёй Беларусі, а таксама асвятленне падзей падчас Дня Волі. Мы вялі жывыя рэпартажы, якія трансліраваліся не толькі ў інтэрнэце. Сігнал таксама перадаваўся на спадарожнік, каб нашы рэпартажы змаглі глядзець людзі з самых аддаленых куточкаў Беларусі – вёсак і мястэчак. Напэўна, камусьці гэта не спадабалася…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПРЭМ'ЕРА

# Шэдэўр на заказ. І на ўсе часы

Напрыканцы зімы ў Беларусі высадзіўся аўстрыйска-нямецкі дэсант з трох чалавек: дырыжора **Манфрэда Майрхофера**, рэжысёра **Ханса-Ёахіма Фрая**, мастака **Хартмута Шаргхофера**. Усе людзі вядомыя, прафесары сваёй справы ў прамым і пераносным сэнсе. Мэта замежнікаў – «захоп» Вялікага тэатра, дзе разам са спевакамі і музыкантамі яны ўзяліся за пастаноўку шэдэўра Моцарта – оперы «Чароўная флейта». І вось 30 сакавіка адбылася прэм'ера. Якое містычнае супадзенне: першы раз опера прагучала таксама 30-га, але верасня – 1791 года! Дырыжыраваў сам аўтар.

Моцарту гэтую оперу замовіў прыяцель – вальнадумец Шыканедэр, акцёр і па сумяшчальніцтве ўладальнік народнага тэатра «Ауф дэр Відэн». Трэба было тэрмінова ратаваць яго ўстанову ў прадмесці Вены ад спусташэння. І дырэктар не знайшоў нікога, акрамя Моцарта, хто пагадзіўся б стварыць дыхтоўнае шоу – што-небудзь простае і прывабнае для публікі. Імпрэсарыа хацеў размоў і песенек *(зінгшпіль па-нямецку)*. Каб глядач у тэатр ішоў адпачыць.

Такія задачы ставіў заказчык. Але выканаўца быў усё-такі геній. І вось праз некалькі месяцаў Моцарт прынёс партытуру «Чароўнай флейты». Яна аказалася выдатным творам! І публіка раптам перастала быць дурай – палюбіла оперу, хаця перад ёй быў зусім не масавы прадукт. Народны тэатр быў выратаваны. Думаю, Вялікі тэатр таксама не пралічыўся, што ўклаў грошы ў новую пастаноўку гэтага дасканалага моцартаўскага твора.

Дырыжор-пастаноўшчык Манфрэд Майрхофер так распавядае пра сваю працу ў Мінску:

– Гэта апошні твор Моцарта, які ён ствараў як «оперу для народа», у даволі простым стылі. Опера была створана для звычайнай публікі, але нават спрактыкаванаму гледачу яна была цікавая, дзякуючы сваёй шматграннасці. Я шчаслівы, што цяпер змог дакрануцца да Моцарта, у маёй галаве пракручваецца кожная нота «Чароўнай флейты». Я ўбачыў, што беларускім выканаўцам падабаецца працаваць над операй, з якімі б цяжкасцямі яны ні сутыкаліся.

Беларуская пастаноўка «Чароўнай флейты» задумана рэжысёрам Хансам-Ёахімам Фраем у стылі фэнтэзі, які, лічыць рэжысёр, дазваляе ўзнавіць любы часавы пласт, злучыць разам некалькі эпох. Галоўную партыю – Таміна – выконвае цудоўны тэнар Юрый Гарадзецкі, пераможца тэлевізійнага праекта «Вялікая опера», уладальнік шматлікіх прафесійных узнагарод.

**Алена МАЛОЧКА.**

БЕЗ ГРИФА «СЕКРЕТНО»

*В минувшее воскресенье и вчера государственные пропагандисты с пеной у рта убеждали радиослушателей и телезрителей в нашей «вечной дружбе с Россией», замалчивая при этом реальные исторические факты. А они свидетельствуют о многих трагических страницах отношений белорусского народа с народом соседней восточной страны. Вот только некоторые цитаты.*

# Из истории «интеграции»

*«Литовские (белорусские. – **Ред.**) города и веси, связанные с партизанами, повоевать и выжечь и разорить совсем без остатку».*
*«Людей литовских побивать сколько бог милостивый силы подаст».*
*«Книги литовской печати жечь на пожарах, чтобы та ересь и смута в мире не была».*

**(Из приказов царя Алексея Михайловича, 1658 г.)**

*«Вокруг Слуцка велели мы все выжечь, а идучи дорогою до Слонима села и деревни и хлеб и сено по обе стороны жгли и людей побивали и разоряли совсем без остатку, а в Клецке в городе людей побили всех».*

**(Из донесения воеводы Трубецкого московскому царю Алексею Михайловичу, 1658 г.)**

*«Сии провинции (Беларусь. – **Ред.**) надлежит привести легчайшим образом к тому, чтобы они обрусели».*

**(Императрица Екатерина II, 1795 г.)**

*«Что не смог сделать русский штык, доделает русская школа… Тот житель этого края (Беларуси. – Ред.), кто не захочет преобразиться в русского, будет считаться иностранцем и должен оставить его навсегда».*

**(Генерал-губернатор Северо-Западного края Михаил Муравьев, 1864 г.)**

*«Здешние учебные заведения (в Беларуси. – **Ред.**) должны избегать местных уроженцев и пополняться переселяющимися из великорусских губерний чиновниками».*

**(Попечитель Виленского учебного округа И.П.Корнилов, 1863 г.)**

*«Республика (БССР) – буферная и нужна нам постольку, поскольку граничит с другими странами. Поскольку Смоленская, Витебская и Могилевская губернии не граничат с другими странами – постольку их можно исключить».*

**(Председатель Совета народных комиссаров РСФСР В.И.Ленин, 1919 г.)**

*«Лаврентий, попробуй по своим каналам прозондировать почву для заключения нового Брестского мира с Германией, сепаратного мира. Пойдем на то, чтобы отдать Прибалтику, Белоруссию, часть Украины – на любые условия».*

**(Распоряжение И.В.Сталина Л.П.Берии 7 октября 1941 г. – из воспоминаний маршала Г.К.Жукова.)**

*«С точки зрения российских экономических интересов в Белоруссии абсолютно безразлично, кто будет руководить этой республикой в будущем – Лукашенко, Шарецкий или кто-либо еще из нынешней республиканской номенклатуры. Главное для России – чтобы он не разделял программного положения праворадикального Белорусского Народного Фронта о том, что «геополитическое положение Беларуси является ее главным источником финансовых ресурсов». Как сейчас, так и в будущем российские интересы в этом государстве будут прежде всего связаны с транзитом российского газа в Западную Европу».*

**(Газета «Коммерсант-дейли», Москва, 26 ноября 1996 г.).**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Андрэй БАНДАРЭНКА:

# «За кратамі «скінуў» 30–40 кілаграмаў»

*Вызвалены праваабаронца распавёў "Народнай Волі" пра свае крымінальныя справы, жыццё за кратамі і планы на будучае.*

Фота svaboda.org.

**Андрэй Бандарэнка** – былы кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Платформ інавэйшн», якая займалася маніторынгам месцаў зняволення. У 2014 годзе яго прызналі вінаватым у хуліганстве, злосным хуліганстве і асабліва злосным хуліганстве ў дачыненні да трох грамадзян і асудзілі на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Тэрмін пакарання ў Бандарэнкі заканчваўся 31 сакавіка гэтага года, але напярэдадні яму было прад'яўлена абвінавачанне па ч.2 арт 411 УК – *"Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі, здзейсненае асобай, асуджанай за цяжкае або асабліва цяжкае злачынства"*. Праваабаронцу пагражала пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў, аднак суд прызнаў яго невінаватым, і сёння Андрэй ужо на волі...

– Перад судом наогул не было ніякага хвалявання, – кажа **Андрэй Бандарэнка**. – Дарэчы, у турме многія падтрымлівалі мяне напярэдадні працэсу, нават святар прыйшоў у турму на гадзіну раней, каб мяне прычасціць. Таму душой адчуваў спакой, а галавой разумеў, што, хутчэй за ўсё, дададуць новы тэрмін зняволення. Як аказалася – памыліўся.

**– Што было самым складаным за тры гады зняволення?**

– Самы цяжкі перыяд быў падчас знаходжання ў Бабруйскай калоніі. Пачаўся ціск з боку адміністрацыі, розныя правакацыі – маральныя і фізічныя. Ды і многія мае былыя калегі паступілі досыць некарэктна, калі па сутнасці кінулі мяне змагацца са сваімі праблемамі сам-насам. Усё навалілася агулам, было вельмі складана. Увогуле, кажуць, што для зняволеных самыя цяжкія апошнія тры месяцы за кратамі. Але мне не было калі думаць пра вызваленне, бо рэальна свяціў новы тэрмін.

**– Праваабаронцы не прызнавалі вас палітвязнем, бо першапачаткова вы атрымалі тэрмін за хуліганства…**

– Калі глядзець на сітуацыю з маральнага пункту гледжання, то я ніколі не адмаўляў, што праваабаронца Андрэй Бандарэнка некалькі гадоў таму павёў сябе некарэктна. Пазней я прынёс прабачэнне тым жанчынам, у адносінах да якіх паступіў няправільна. Хаця да гэтага часу лічу сітуацыю правакацыяй, але разумею, што мужчына павінен заўсёды заставацца мужчынам. Таму тут я ўжо даўно сам сабе вынес маральны прысуд. Але ж мы павінны разумець, што за краты адпраўляюць не за маральныя ўчынкі. Калі ўважліва пачытаць маю крымінальную справу, то можна ўбачыць, што яе, па сутнасці, не існуе. Для мяне відавочна, што найперш мяне судзілі за праваабарончую дзейнасць.

**– Як адміністрацыя папраўчых устаноў ставілася да такога "асаблівага кліента"?**

– Адпаведна. Пасля суда мяне накіравалі ў калонію, якой кіравалі людзі, што патрапілі дзякуючы мне ў "чорны спіс" Еўрасаюза. Мне адкрытым тэкстам сказалі: "Ты сваё адпрацаваў на волі, а зараз – наша работа". Шчыра кажучы, я адчуў на сабе, напэўна, увесь турэмны ціск, які толькі магчымы. І збівалі, і некалькі месяцаў сядзеў у штрафным ізалятары... Усё было даволі жорстка.

**– Калегі па няшчасці спачувалі?**

– Вельмі шмат людзей падтрымлівалі, стараліся хоць нечым дапамагчы. І словам, і нейкім пернікам з уласнай перадачы.

**– На судзе было бачна, што ў апошні час вы добра схуднелі…**

– Так атрымалася, што амаль два з паловай гады я правёў у адзіночнай камеры. Апошнія паўтара года мне былі забаронены ўсялякія перадачы і пасылкі, а ў мясцовай краме мог купляць тавараў усяго на 21 рубель у месяц. Што з ежы можна набыць на месяц за такія грошы, калі трэба купіць яшчэ пральны парашок, зубную пасту і іншыя рэчы першай неабходнасці? Таму за ўвесь час 30–40 кілаграмаў скінуў, і зараз мяне дакладна можна рэкламаваць пад дэвізам "Хочаш пахудзець? Спытай мяне – як!".

**– А ці знаходзілася нейкая работа для вас?**

– У Бабруйскай калоніі наогул не выводзілі на работу, а вось у турме спачатку вырабляў паштовыя канверты, затым быў на разборцы дэталяў. Хаця заробкі былі зусім смешныя. Апошні раз за месяц атрымаў… 39 капеек! Смяяўся, што з такімі сумамі на свабоду трэба выходзіць толькі з аховай – абрабаваць могуць у любы момант.

**– Усё горшае засталося ў мінулым. Чым вы зараз плануеце займацца?**

– Найперш усе сілы я кіну на вызваленне заснавальніка праваабарончай арганізацыі "Платформ інавэйшн" Міхаіла Жамчужнага, які таксама знаходзіцца за кратамі. А пра далейшыя планы ў хуткім часе я раскажу грамадскасці…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Не трактары, а скавароды умеюць выраблясць заводы

Беларускія прадпрыемствы апрача асноўнай прадукцыі налаўчыліся выпускаць і няпрофільную. Скажам, трактарны завод выпрабляе малаткі і сякеры, "Гарызонт" – старызну, БМЗ – мангалы, "Інтэграл" – звычайныя вушныя біркі для свіней і г.д.

Паказваюць заводы хватку,
Ратуюць як мага сябе,
Бо праўду кажуць: па зярнятку
Звычайна курыца дзяўбе.
Здаўна, напрыклад, на заводзе
Збіралі людзі трактары.
Не прадаюцца – жах дый годзе! –
Яны з нядаўняе пары.
Якія ўжыць патрэбна меры
І выхад просіцца які?
Хай выдае завод сякеры
І, безумоўна, малаткі,
Бо іх купіць любы гатовы –
І маладзіца, і мужык,
Каб пакалоць на дачы дровы
Або забіць у сценку цвік.
Завод, дзе плавяцца металы,
На жаль, таксама ледзь жывы.
І хтось падумаў, што мангалы –
Тавар найболей хадавы.
Цяпер людзей і праўда мала,
Якіх не вабіў бы пікнік.
Ці ж там жуюць з цыбуляй сала?
Пад чарку лепш за ўсё шашлык!
І тэлевізары не ў модзе,
Што выпускае "Гарызонт".
Мазгі сушылі на заводзе
Праблемы гэтае наконт,
Інакш завод чакае трызна –
Канае, бедны, пакрысе…
І вось рашылі, што старызна
Збавенне ўсё-ткі прынясе.
Чым праціраюцца дэталі?
Чым затыкае дзіркі люд?
І выпускаць старызну сталі,
Бо кожны купіць хоць бы жмут.
Выдатна ведаем усе мы –
І праграміст, і генерал:
Прыборы, чыпы, мікрасхемы
Даваў краіне "Інтэграл".
Без іх ніводная ракета
Падняцца не магла з зямлі.
Было прэстыжна вельмі гэта,
Яшчэ й рублі ракой цяклі.
На жаль, на схемы і прыборы
Шалёны попыт быў раней.
А зараз там жа год каторы
Штампуюць біркі для свіней,
Каб гаспадар дакладна ведаў,
Быў у жывёлы лёс які:
Яе зарэзаў нож суседаў
Ці зацягнулі ў лес ваўкі.
Ды бірка – з простага металу.
А значна лепш было б, калі б
(Даю параду "Інтэгралу")
Дадаткам бірка мела чып.
Знайшлі і іншыя заводы
Сабе "занятак па душы":
Хто выпускае скавароды,
А хтосьці лепіць гладышы.
Прызнаць патрэбна: ход удалы.
Ды засмучае ўсё ж адно:
У іх цудоўныя мангалы,
А тэлевізары – га…но.

ФУТБОЛ

# З новымі надзеямі…

*У мінулыя выхадныя стартаваў чарговы чэмпіянат краіны па футболе.*

Адразу трэба сказаць, што гэта першынство пачалося крыху незвычайна, бо адразу дзве каманды матчы першага тура праводзілі ўжо з "мінусавым балансам". Федэрацыя футбола яшчэ да старту сезона пазбавіла "Іслач" 7 ачкоў за датычнасць асобных прадстаўнікоў клуба да "справы аб дамоўленых матчах", а наваполацкі "Нафтан патрапіў на мінус пяць" за несвоечасовае пагашэнне запазычанасцяў.

Тым часам ужо ў 1-м туры былі і прыгожыя галы, і даволі шмат балельшчыкаў на трыбунах, і нечаканасці…

Вось вынікі стартавага тура: "Днепр" (Магілёў) – "Дынама" (Мінск) – 0:3, "Гомель" – БАТЭ (Барысаў) – 1:1, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Іслач" (Мінскі раён) – 2:1, "Гарадзея" – "Шахцёр" (Салігорск) – 0:1, "Мінск" – "Дынама" (Брэст) – 2:2, "Нафтан" (Наваполацк) – "Слуцк" – 0:1, "Крумкачы" (Мінск) – "Віцебск" – 1:0, "Нёман" (Гродна) – "Славія" (Мазыр) – 0:0.

Наступны тур пройдзе 8–10 красавіка.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Мн) | 1 | 1 | 0 | 0 | 0–3 | 3 |
| Тарпеда-БелАЗ | 1 | 1 | 0 | 0 | 2–1 | 3 |
| Крумкачы | 1 | 1 | 0 | 0 | 1–0 | 3 |
| Слуцк | 1 | 1 | 0 | 0 | 1–0 | 3 |
| Шахцёр | 1 | 1 | 0 | 0 | 1–0 | 3 |
| Дынама (Бр) | 1 | 0 | 1 | 0 | 2–2 | 1 |
| Мінск | 1 | 0 | 1 | 0 | 2–2 | 1 |
| БАТЭ | 1 | 0 | 1 | 0 | 1–1 | 1 |
| Гомель | 1 | 0 | 1 | 0 | 1–1 | 1 |
| Нёман | 1 | 0 | 1 | 0 | 0–0 | 1 |
| Славія | 1 | 0 | 1 | 0 | 0–0 | 1 |
| Віцебск | 1 | 0 | 0 | 1 | 0–1 | 0 |
| Гарадзея | 1 | 0 | 0 | 1 | 0–1 | 0 |
| Днепр | 1 | 0 | 0 | 1 | 0–3 | 0 |
| Нафтан | 1 | 0 | 0 | 1 | 0–1 | -5 |
| Белшына | 1 | 0 | 0 | 1 | 1–2 | -7 |

ЧУЛІ?

# Вулічныя музыканты пройдуць штучны адбор

У Мінску легалізаваны вулічныя музыканты. З 17 мая яны змогуць паўнапраўна іграць, праўда, толькі ў адведзеных месцах.

Гарадскім бардам вызначаны 12 пляцовак у пешаходных пераходах. Зрэшты, справа нават не ў месцы, а ў рэпертуары. Горш ён будзе пасля кантролю з боку ўлад або лепш? Цяпер, мне здаецца, наўрад ці большасць з нас могуць ідэнтыфікаваць гэтых людзей персанальна – няма яркіх асоб, няма самародкаў, якія спынілі б сваёй ігрой на інструменце пешахода. Хоць, вядома, мы часам даём «на чай» гэтым рыцарам скрыпічнага ключа... Але, у рэшце рэшт, калі людзі хочуць зарабляць грошы сваёй творчасцю, яны павінны адпавядаць хаця б сярэдняму музычнаму ўзроўню. Яны ж выйшлі ў пераход не міласціну прасіць, а спадабацца публіцы.

Ясна, што сярод жадаючых іграць на вуліцы адбудзецца адбор. Затое тым, хто яго пройдзе, будзе дазволена размяшчаць побач паліграфічную прадукцыю пра сябе – рэкламу канцэртаў у клубах.

**Вікторыя ДРОЗД.**

СКАНДАЛ

# Актеры театра юмора «Христофор» отказались работать с Евгением Крыжановским

По словам Крыжановского, катализатором конфликта стало его активное участие в политике. Но он, несмотря на то, что ему принадлежат все юридические права на товарный знак «Христофор», не против, чтобы его бывшие коллеги пользовались брендом во время выступлений. *«Я не буду подавать в суд или запрещать им играть,* – заявил Крыжановский порталу tut.by. – *Но зритель должен знать, что перед ними выступает другой «Христофор».*

Как заметил директор «Христофора» Юрий Лесной, Крыжановский договорился с бывшими коллегами полюбовно и разрешил им пользоваться брендом.



СЕМЕЙНЫЙ АЛЬБОМ

# Мамино наследство

*У меня было исключительно счастливое детство: наши родители любили нас и друг друга, мы любили своих родителей. Мама всегда очень много работала, но я постоянно ощущала ее присутствие в моей духовной жизни.*

* * *

1946 год. Пригородный поезд Москва–Можайск. На скамье у самого тамбура – две женщины: пожилая в платочке и молодая в шляпке с вуалью. На одной из станций в вагон входит полковник в каракулевой папахе. Молодая женщина вытягивается в струнку и отдает полковнику честь, вздернув руку… к шляпке с вуалью.

– Фронтовичка? – улыбаясь, спрашивает вошедший.

– Так точно, товарищ полковник! – покрывается краской старший лейтенант запаса.

Эпизод этот много лет спустя живописала мне моя бабушка Анастасия Ивановна… А старшим лейтенантом в шляпке была моя мама Александра Александровна Шавня. Под вуалью она прятала раненный на фронте глаз.

* * *

После окончания школы золотая медалистка Шура Шавня из небольшого подмосковного поселка Дорохово поехала поступать в один из самых престижных вузов Советского Союза – Московский институт истории, философии и литературы имени Н.Г.Чернышевского (МИФЛИ). Выдержав огромный конкурс, она стала студенткой и обрела счастье слушать лекции таких ученых с мировым именем, как академики Тарле и Готье, профессора Радциг и Гудзий. Однако длилось это счастье всего один академический год.

22 июня 1941 года перед экзаменом по истории Древней Руси академик Юрий Владимирович Готье проводил консультацию для первокурсников. Вдруг в аудиторию – самую большую в учебном корпусе – вошел один из преподавателей и молча включил висевший на стене репродуктор. Так студенты-ифлийцы узнали, что началась война.

У репродуктора собрались все, кто был в институте. Когда выступление по радио главы Советского правительства В.М.Молотова закончилось, рядом с кафедрой образовалась длинная очередь. Началась запись добровольцев. Встала в эту очередь и Шура Шавня.

В тот день в добровольцы записалось более 300 студентов МИФЛИ. Позже из них были отобраны 60 – для подготовки военных переводчиков. Учеба на шестимесячных курсах при Военном институте иностранных языков Красной Армии строилась по законам военного времени – занимались по 18 часов в сутки с короткими перерывами на сон и еду. И уже через полгода младший лейтенант Александра Шавня была направлена в распоряжение разведотдела Крымского фронта.

Там, в Крыму, во время одного из самых трагических для советских войск сражений моя мама была ранена осколком снаряда в правый глаз. Оперировали ее в Москве, в Центральном госпитале Красной Армии. Операция прошла успешно. Но, хотя бельмо и удалось убрать, правый глаз стал различать только «светло-темно»: из него был удален хрусталик.

Маме предложили демобилизоваться. Она наотрез отказалась и вернулась на фронт. Всю Великую Отечественную войну она прослужила в действующей армии. Награждена орденом Красной Звезды, многими медалями.

А еще на фронте мама познакомилась с моим папой, Борисом Михайловичем Пшоником. После госпиталя она попала в ту же часть, где служил папа, занимавшуюся радиоразведкой. После войны родители поженились и стали жить в Москве. Мама поступила в институт иностранных языков – посчитала, что надо использовать практические знания, полученные за четыре военных года.

Однако и этот вуз закончить ей не удалось. Мужа папиной сестры, военного инженера, направили служить в Минск. Туда же вернулся, демобилизовавшись из армии, папин средний брат. Младший погиб на фронте. Бабушка очень тяжело переживала его гибель и мечтала собрать в одном городе всех оставшихся детей. Так моя мама оказалась в Беларуси, на родине своего мужа и своего отца (дедушка Александр Прокофьевич Шавня был родом с Оршанщины).

В разрушенном войной Минске с жильем было очень тяжело. Мама устроилась комендантом в общежитие строительной организации, и им с папой выделили комнату в деревянном бараке на окраине города.

…Как-то после записи телепередачи, посвященной вступительной кампании, ко мне, тогда журналистке молодежной газеты, подошел начальник управления одного из министерств, тоже в этой передаче участвовавший.

– Как поживают ваши родители?

– Вы знаете моих родителей?

– Еще бы! Я у них в комнате в Пушкинском поселке несколько месяцев на раскладушке ночевал…

Оказалось, много лет назад выпускник МГУ приехал по распределению в Минск. Мамина сестра Зина, жившая в Москве, дала ему «на всякий случай» наш адрес. И, конечно же, мои родители приютили молодого специалиста.

* * *

Сегодня я просто удивляюсь, как много людей перегостило – причем неделями, а то и месяцами – у нас: сначала в комнате в Пушкинском поселке, потом в двухкомнатной квартире на Ленинском проспекте (теперь проспект Независимости). Мамины и папины однополчане, дети однополчан, знакомые родственников, знакомые знакомых… Но, самое главное, они не были маме в тягость. Когда гости уезжали, они никогда не выражала недовольства их визитом, не жаловалась на дополнительные хлопоты. Даже когда у нас еще не было стиральной машины, холодильника, пылесоса…

В комнате в Пушкинском поселке с интервалом в два года появились я и моя младшая сестра Света. Получение высшего образования нашей так любившей и умевшей учиться маме опять пришлось отложить.

Когда удалось уйти с должности коменданта общежития, она нашла себе работу корректора в газете «Сталинская молодежь» (теперь «Знамя юности»). Вот такими непростыми тропами вывела маму судьба к профессии, которая стала содержанием и смыслом ее жизни.

Работая в газете, Александра Шавня поступила на заочное отделение факультета журналистики Белгосуниверситета. Но учиться заочно ей показалось недостаточно. И мама поступает на стационар факультета журналистики Высшей партийной школы. Занимается одновременно в двух вузах (с двумя маленькими детьми!). И оба оканчивает на «отлично».

У меня было исключительно счастливое детство. Наши родители любили нас и друг друга. Мы любили своих родителей. Да, мама всегда очень много работала, даже дома: по вечерам (а случалось, и ночами) писала свои статьи. Но я постоянно ощущала ее присутствие в моей духовной жизни. Прочтение «Легенд и мифов Древней Греции» Куна, «Вечеров на хуторе близ Диканьки» Гоголя, романов Тургенева (любимого маминого писателя), «На росстанях» Коласа, «Из воспоминаний» Чуковского, «подсунутых» мне намного раньше, чем того требовала школьная программа, стало не просто фактом моей биографии, а во многом определило мое мироощущение.

Профессию я выбрала не по совету родителей – они, напротив, считали, что я должна поступать в институт иностранных языков. Но под несомненным их влиянием (папа тоже был журналистом). Видимо, их собственное отношение к делу, их жизнь в профессии агитировали за нее сильнее слов.

* * *

Вскоре маму приглашают в газету «Звязда» и назначают сразу заведующей отделом литературы и искусства.

Это был замечательный период в моей жизни! Чтобы быть в курсе всех культурных событий в республике, мама постоянно ходила в театры на спектакли. И очень часто брала меня с собой. Помню, как директор Русского театра провожал нас в свою ложу и сажал в уголок, прикрытый бархатной шторкой: детям на вечерние представления ходить не разрешалось. Но когда в зале гас свет, я «выруливала» из своего укрытия и с замиранием духа смотрела на сцену. До сих пор память высвечивает декорации тех спектаклей, мизансцены, даже интонации актеров.

Из «Звязды» мама перешла в «Настаўніцкую газету» и проработала в ней 20 лет, до самой пенсии. В 1960–1970-е годы там собрался уникальный коллектив единомышленников («наше «Настаўніцкае» братство» – называла его мама) – интеллигентов, интеллектуалов, подвижников. Они мощно поддерживали учителей-новаторов, смело поднимали назревшие в тогдашней школе проблемы, много ездили по республике.

Однажды из командировки мама приехала не одна – с собой она привезла маленькую старушку.

– Знакомьтесь, это Зинаида Митрофановна, она поживет у нас, – сказала нам мама.

Оказалось, Зинаиде Митрофановне, в прошлом учительнице младших классов, уроженке Западной Беларуси, все никак не удавалось оформить пенсию – не хватало каких-то документов. Жила она вдвоем с сестрой и на пенсию сестры. И вдруг сестра внезапно умирает. Зинаида Митрофановна оказалась практически без средств к существованию. Каждый день ездила она в райцентр – пыталась выхлопотать себе пенсию. И каждый день возвращалась ни с чем. Плачущей на автобусной остановке и увидела Зинаиду Митрофановну моя мама.

Несколько месяцев жила у нас настрадавшаяся женщина. Все это время мама упорно ходила по инстанциям. И добилась в конце концов пенсии для бывшей учительницы. Провожали мы Зинаиду Митрофановну как родную. А она до самой своей смерти присылала маме трогательные письма.

***

На фестивале в Берлине я, молодая журналистка газеты «Чырвоная змена», познакомилась с корреспондентом польского студенческого журнала Войтеком Фурманом. Обменялись телефонами и адресами. А спустя пару месяцев у нас дома раздался звонок:

– Привет, Галя! Я в Минске с журналистской делегацией. Все – из студенческих изданий. Тебе интересно будет познакомиться. Приезжай к нам в гостиницу.

– Мама, звонит Войтек, он с другими польскими журналистами в гостинице, приглашает меня, – сообщаю, держа трубку в руке.

– В какую еще гостиницу? Приглашай к нам.

– Войтек, мама сказала, чтобы вы приезжали к нам.

– Но нас двенадцать человек! – кричит в трубку Войтек.

– Мама, их двенадцать!

– Ну и что? Пусть приезжают двенадцать.

Мама нажарила гору своих фирменных отбивных, мы со Светой начистили картошки и приготовили несколько салатов. Войтек приехал с одиннадцатью спутниками. Оказалось, что русский понимают все наши гости, но не все разговаривают на нем. И мама придумала, чтобы после ужина мы – она, Света, я – почитали стихи. Неожиданно стали читать стихи и поляки – на польском. После этого затруднений в общении уже не испытывал никто.

В письме из Варшавы Войтек потом благодарил за проведенный вечер, особенно – за стихи.

***

Очень любили бывать у нас в доме и наши со Светой однокурсники. Они обязательно настаивали, чтобы за общий стол на студенческих вечеринках сели наши мама с папой. Было очевидно, что наши родители откровенно интересны ребятам. Помню, например, как однажды папа, взяв из рук одного из парней гитару, поразил всех своей по-настоящему виртуозной игрой. У него был абсолютный слух, и он играл на нескольких инструментах.

Наши мама и папа прожили вместе почти 50 лет удивительно красивой, чистой, достойной жизнью. Им было хорошо друг с другом, и рядом с ними было хорошо другим.

Папа ушел от нас в 1992 году, мама – на исходе 2016-го. В девятый день после ее смерти мы все вместе, дети и внуки, поехали на кладбище. Уже возвращаясь к машине, возле одной из заснеженных могил увидели пожилую женщину.

– Надо предложить ее подвезти, – сказал мой племянник. Все, конечно же, согласились.

– Вы меня только до метро «Уручье» довезите, – попросила женщина.

В машине выяснилось, что живет наша пассажирка в Жлобине, а на Колодищанском кладбище похоронен ее сын, и мать приезжала на годовщину его смерти. Племянник не высадил ее у метро. Он довез нашу новую знакомую до вокзала, усадил в зале ожидания и сам купил билет до Жлобина.

Когда я сказала племяннику, что он молодец, тот ответил:

– А ты помнишь Зинаиду Митрофановну?

Я улыбнулась: достойный внук своей бабушки и даже назван в ее честь – Александр.

**Галина ПШОНИК.**

(«Алеся».)

ДА ВЕДАМА

# Дні зніжак у красавіку

Буйныя сталічныя ўнівермагі працягваюць практыку рэалізацыі тавараў са зніжкамі.

Так, акцыі ў **ЦУМе** пройдуць 8, 20 і 27 красавіка – тавары будуць рэалізоўвацца са зніжкай 17 працэнтаў.

Універмаг **"Беларусь"** аб'яўляе дні зніжак 4, 11 і 18 красавіка – тавары ў гэтыя дні можна набыць на 20 працэнтаў танней.

У **ГУМе** 13 красавіка пройдзе акцыя «Шчодры дзень» – зніжка ўстаноўлена ў памеры 22 працэнты, а 20 і 27 красавіка пакупнікі змогуць набыць тавары са зніжкай 20 працэнтаў.

Гандлёвы дом **«На Нямізе»** праводзіць кожныя сераду і суботу красавіка акцыі, падчас якіх можна набыць тавары са зніжкай 20 працэнтаў.

У магазінах **«Кірмаш»** кожныя сераду і пятніцу красавіка ўстаноўлена зніжка на тавары 17 працэнтаў.

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

# Ох, і сеяла Ульяніца лянок

Словы і музыка народныя

Ох, і сеяла
Ульяніца лянок,
Ох, і сеяла
Іванаўна лянок! (2 разы)

**Прыпеў:**
Ох, сэрца – лянок,
Мая радасць ты, лянок!
Ўсё бялюсенькі кужалёк!

Ох, палола
Ульяніца лянок,
Ох, палола
Іванаўна лянок! (2 разы)

**Прыпеў.**

Ох, і рвала
Ульяніца лянок,
Ох, і рвала
Іванаўна лянок! (2 разы)

**Прыпеў.**

А сарваўшы,
у снапочкі ставіла,
А сарваўшы,
у снапочкі ставіла. (2 разы)

**Прыпеў.**

Ох, і слала
Ульяніца лянок,
Ох, і слала
Іванаўна лянок! (2 разы)

**Прыпеў.**

Ох, і мяла
Ульяніца лянок,
Ох, і мяла І
ванаўна лянок! (2 разы)

**Прыпеў.**

Ох, і прала
Ульяніца лянок,
Ох, і прала
Іванаўна лянок! (2 разы)

**Прыпеў.**

Ох, і ткала
Ульяніца лянок,
Ох, і ткала
Іванаўна лянок! (2 разы)

**Прыпеў.**

А саткаўшы,
ды сарочак
нашыла,
А саткаўшы,
ды бялёных
нашыла! (2 разы)

**Прыпеў.**




АЗБУКА ДЛЯ НАЧИНАЮЩИХ

## …Вырастают не кочаны, а кочанчики

***Не знаю, как выращивается брюссельская капуста. Расскажите, пожалуйста.***

**Сергей ТРОФИМЕНКО.**
*Воложинский район.*

Брюссельская капуста – овощ с прекрасными вкусовыми и диетическими свойствами, который используется при лечении сердечно-сосудистых заболеваний. Мелкие плотные кочанчики размером с грецкий орех образуются на стебле в пазухе листьев.

Сеют брюссельскую капусту с 1 по 20 апреля, высаживают рассаду на грядки 1–10 июня. Грядка не должна быть перенасыщена органическими удобрениями. На суглинистой почве на 1 кв. метр грядки добавляют по 1 ведру торфа, перегноя, поллитровую банку древесной золы, по 1 ст. ложке суперфосфата и хлористого калия. Проливают готовую грядку раствором марганцовки (на 10 л воды 1 г) по 2–3 л на 2 кв. метра.



Схема посадки рассады в фазе 3–4 листочков 50x50 сантиметров. Чтобы ускорить рост кочанчиков, верхушку при высоте стебля 50–60 см обламывают. Брюссельскую капусту не окучивают. Поливают 1 раз в неделю из расчета 12–14 л на 1 кв. метр.

Капусту убирают 1–5 ноября вместе со стеблем, но листья удаляют, чтобы кочанчики долго сохранялись плотными, зелеными, сочными. Вместе со стеблем их можно хранить в течение двух месяцев при температуре 2–5°С. Кочанчики, собранные без стебля, быстро вянут.

РАСТЕНИЯ ЛЕЧАТ

## Хрен

Корни этого растения очень богаты витамином С (количество данного витамина в хрене в 5 раз превышает его содержание в лимоне и апельсине), в большом количестве содержат эфирное горчичное масло, углеводы, фитонциды, ферменты и минеральные соли калия, кальция и фосфора. В соке свежих корней содержится вещество лизоцим, способное разрушать оболочки бактериальных клеток и поэтому обладающее антимикробным действием.

Хрен возбуждает аппетит и улучшает деятельность кишечника. Для этих целей рекомендуется до еды принимать чайную ложку натертого хрена с сахаром или медом. Хрен принимают также как мочегонное средство при водянке, камнях в мочевом пузыре, подагре и ревматизме. Свежий сок хрена и его водные разведения (1:1) усиливают выделение соляной кислоты в желудке и эффективны при лечении гастритов с пониженной кислотностью желудочного сока. Однако при других воспалительных процессах желудочно-кишечного тракта, а также печени и почек употребление хрена противопоказано.

В народной медицине кашицу из корней хрена применяют для приготовления натираний при пояснично-крестцовом радикулите, мышечных болях в спине и пояснице. В этом случае натертую кашицу из корней хрена намазывают на ткань и прикладывают к больным местам подобно пластырю. Маски из кашицы хрена с яблоками (1:1) наносят на лицо при вялой пористой коже. В дерматологии водный настой корня применяют для удаления веснушек и пигментных пятен.



Соком хрена, разбавленным водой (1:1), полощут рот при воспалении слизистой оболочки и горла, при ангине.

Свежие листья хрена прикладывают к больным местам в виде компресса для снятия болей при радикулите, ишиасе и невралгии.

УЧЕНЫЕ РЕКОМЕНДУЮТ

## Опускаем семена в… воду. Зачем?

Помещают семена в воду непосредственно перед посевом, чтобы они набухли и оболочка их размягчилась. При намачивании из оболочки семян экстрагируются вещества, задерживающие их рост, – ингибиторы.

В деревянную, эмалированную или фаянсовую посуду насыпают семена и заливают их водой в таком количестве, чтобы объем воды был в 4–5 раз больше объема семян. Вода должна быть чистой, не содержать вредных примесей в виде закисной формы железа или алюминия. Продолжительность намачивания при температуре 20–25°С для бобовых, тыквенных, капустных культур 12–20 часов, для лука, моркови, свеклы – 50–60 часов. Воду необходимо менять два раза в сутки.

Иногда намачивают семена в мешочках. В этом случае нужно, чтобы объем мешочков был заполнен семенами не более чем на половину. При этом семена необходимо тщательно перемешать, чтобы увлажнение проходило не только по периферии, но и внутри мешочка. Нельзя намачивать семена в проточной воде, так как это приведет к вымыванию из них питательных веществ.

Семена, в оболочках которых ингибиторы содержатся в небольшом количестве (тыквенные, все виды капусты, репы, редька, редис, брюква, бобовые), следует намачивать в небольшом объеме воды



(1:1,5–1:2).

Намачивание семян до состояния полного набухания ускоряет появление всходов у моркови, петрушки, пастернака, укропа на 3–5 дней по сравнению с высеванием сухих семян.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Не вносите удобрения «на глазок»

Предлагаем несколько советов, которые нужно помнить при внесении в почву минеральных удобрений.

1.Дозы для отдельных растений нужно всегда рассчитывать по потребности, никогда не следует брать удобрения «на глазок».

2.Только оптимально удобренная почва может быть залогом успешного возделывания декоративных, овощных и плодовых растений.

3.Лучше почву недоудобрить, чем переудобрить.

4.Избыток азота в почве вреден для здоровья человека.

5.Избыток фосфорных, калийных, кальциевых, магниевых и микроудобрений не опасен для человека, но опасен для растений.

6.С минеральными удобрениями в почву поступают не только питательные вещества, но и балласт, который может быть вреден как для человека, так и для растений (хлор, сера, мышьяк, фтор и др.).

7.Дозы удобрений всегда нужно рассчитывать, исходя из содержания питательного элемента в удобрении. Нужное количество удобрений на 1 кв. метр можно определить по массе питательных веществ, которая содержится в чайной ложке (6–11 г твердых и 5 мл жидких удобрений) или в столовой ложке (16–28 г и 15 мл) с верхом, наполненных удобрениями.

8.На упаковке удобрений часто содержание действующих веществ дано в окислах: фосфор – в $P_2O_5$, что соответствует 0,436 г фосфора, калий – в $K_2O$, что соответствует 0,83 г калия.

9.Если нет данных о точном содержании питательных веществ в почве, то нужно брать дозу, соответствующую оптимальному содержанию их в почве.

10.Удобрения нужно всегда тщательно перемешать с почвой и никогда не следует их оставлять незаделанными на поверхности.

**Ведущий рубрики агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

ШАШКІ

## Вынікі

Падведзены вынікі чэмпіянату Беларусі па шашачнай кампазіцыі 2016 года ў міжнародныя шашкі.

Неверагодны вынік паказаў **Пётр Шклудаў** з Наваполацка. Ён атрымаў перамогу ў чатырох катэгорыях: праблемы, мініяцюры, дамачныя праблемы і эцюды. Цікава што 2-е месца ў тых жа раздзелах заняў мінчанін **Віктар Шульга**. 3-е месца адпаведна занялі: праблемы – **Аляксандр Сапегін** (в.Хадасы Мсціслаўскага раёна), мініяцюры і дамачныя праблемы – **Іван Наўроцкі**, эцюды – **Дзмітрый Камчыцкі** (Магілёў). Прыемна, што ў раздзеле "Задачы" перамогу атрымаў наш актыўны чытач **Аляксандр Шурпін**. Другі – **Анатоль Шабалін** (Мінск). Трэці – **Мікалай Крышталь** з Пінска. Ніжэй знаёмім з праблемай-100 **Пятра Шклудава**.



**Белыя**: 11, 23, 24, 28, 33, 34, 35, 36, 38, 40, 43, 46, 47, 50 (14).

**Чорныя**: 2, 6, 8, 10, 12, 13, 15, 17, 20, 22, 25, 27, 31, 37 (14).

18, 34–30, 39, 46–41, 3, 3:21:8, 9(14), 20, 42(29), 38(34), 33 х.

## Творчасць сяброў

Свае новыя кампазіцыі прапануе **Іван Івацка** з украінскай Вінніцы.



№1 (гл. дыяграму). **Белыя**: a1, c5, d4, f4, h2, h6 (6).

**Чорныя**: c7, d8, f6, f8, g7, h4 (6).

g5(de7), b2(cd6), a3, c5, (d6), ge7, de5, a3(e3), b4(f2), c5x.

Пададзеныя ніжэй творы **І.Івацкі** рашыце самастойна як заданні наступнага бліц-конкурсу.

№2 **Белыя**: a5, b4, e7, f4, f6, h2 (6).

**Чорныя**: d2, d4, d8, e3, g5, h4, h6 (6).

№3 **Белыя**: b6, c5, c7, d6, g3 (5).

**Чорныя**: a5, b2, c3, d4, e3, h4 (6).

№4 **Белыя**: дамкі e1, g1. шашкі d2, f2 (4).

**Чорныя**: дамкі b4, c5, шашкі a7, c7, d4, f6, h2 (7).

№5 **Белыя**: b2, e1, f2, g3, f6, g7 (6).

**Чорныя**: c3, d4, d6, e5, f4, h2 (6).

## Супаставім рашэнні

Рашэнне пазіцый бліц-конкурсу "НВ" ад 7 лютага 2017 года. Аўтарам рашэнняў большасці заданняў быў таксама **Іван Івацка.**

**№5** c5(d4), b6, a7, g5(f2, g1), h6, f8 х.

**№6** d2, ef8, c7, g1, c5, a1 х.

**№7** c7, f2, d8, c1, e7, e7 х.

**№8** bc7, a7, b8, a3(f2), g3, d6 х.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі, Эдуард Дамброўскі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в. Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць. На гэты раз перамог **Уладзімір Валчкоў** з Маладзечна.

## Новыя творы

Працягвае здзіўляць сваімі знаходкамі з нулявым фіналам на 100-клетачнай дошцы мінчанін **Іван Наўроцкі**. На гэты раз аўтар прапануе праблемы, дзе нулявы фінал атрымліваецца ў двух (!) варыянтах.

№6 **Белыя**: 6, 11, 31, 33, 38, 40 (6).

**Чорныя**: 17, 22, 27, 35, 36, 41 (6).

28, 11:22, 1(27**A**), 22, 50 х. **A**(44), 47, 50 х.

№7 **Белыя**: 12, 26, 27, 29, 31, 33, 34, 35, 40, 49 (10).

**Чорныя**: 1, 7, 10, 11, 14, 19, 20, 36, 38, 42, 45 (11).

26–21, 43, 16, 7, 23, 4(27**A**), 48, 26 х. **A**(34), 26, 48 х.

№8 **Белыя**: 12, 13, 16, 18, 22, 29, 31, 34, 35, 40, 43 (11).

**Чорныя**: 6, 10, 14, 20, 21, 23, 27, 36, 42, 45 (10).

11, 39, 33, 23, 4(27**A**), 48, 26 х. **A**(34), 26, 48 х.

Наступная мініяцюра складзена ў суаўтарстве з **Пятром Шклудавым** і мае чатыры (!) нулявыя фіналы.

№9 **Белыя**: 9, 14, 17, 19, 20, 28 (6).

**Чорныя**: 3, 8, 12, 25, 31, 42 (6).

10(3:32**A**), 5(14**B**), 48, 3 х. **B**(21), 3, 47 х. **A**(25:32), 5(21**C**), 17, 47 х. **C**(14), 48, 3 х.

**Генадзь Андрэеў** (Латвія) прапануе свае творы як у міжнародных, так і ў рускіх шашках.

№10 **Белыя**: 7, 29, 30, 31, 34, 41, 48 (7).

**Чорныя**: 15, 26, 28, 38, 39, 43 (6).

25, 20, 2, 39, 5 х.

№11 **Белыя**: 21, 29, 30, 32, 33, 34, 41, 42, 43, 44, 48 (11).

**Чорныя**: 9, 10, 12, 13, 16, 18, 19, 20, 22, 25, 31 (9).

23, 3, 5(19, 41), 37, 42 х.

№12 **Белыя**: **b2, b6, d6, f6 (4).**

**Чорныя**: **a7, d2, f2 (3).**

**c3(b4A), fe7, d8, a5 х. A(g5), g3 х.**

**Дэбютант нашай рубрыкі – Мікалай Вяргейчык** з Гомеля. Пасля некаторага перапынку ў складанні шашачных кампазіцый Мікалай Рыгоравіч прапануе творы ў нязвыклым для яго жанры "задачы" з заданнем "белыя пачынаюць і пазбаўляюць ходаў шашку чорных".

№13 **Белыя**: дамкі c5, d4, c1, e1, шашкі d6, d2, f2, h2 (8).

**Чорныя**: дамка g5, шашкі d8, f8 (3).

e7(b4**A**), c5, de3, e7, g5, hg3 х. **A**(f6), g7, de3, g5, hg3, g3, g3, g1 х.

№14 **Белыя**: дамкі a5, g5, d2, шашкі b6, c3, h2, a1 (7).

**Чорныя**: шашкі b4, d8, e5, h4 (4).

g3(f2**A**), c7, e1, e7, c1, c5, a5, b4, ab2 х. **A**(f6), gf4, c7, f2, fd4, c1 х.

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, "Шашкі"*** або на электронны адрас: **shulga.checkers@gmail.com.**

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Сяргей ПУШКОЎ: «Пасля перамогі разыходзіліся пад раніцу…»

*Галоўны трэнер уладальніка Кубка прэзідэнта па хакеі распавёў "Народнай Волі" пра тое, як каманда адзначыла перамогу.*

Напрыканцы мінулага тыдня гродзенскі "Нёман" адвесіў смачную аплявуху камандзе Міхаіла Захарава – мінскаму "Юнацтву". У фінальнай серыі да чатырох перамог гродзенцы вымусілі капітуляваць сталічных хакеістаў усе чатыры разы. Адным словам, накдаўн!

Ужо на наступны дзень пасля трыумфу галоўны трэнер "Нёмана" **Сяргей ПУШКОЎ** вырашыў адправіцца ў адпачынак у родны Санкт-Пецярбург, але карэспандэнт "Народнай Волі" адлавіў яго акурат у аэрапорце…

**– Сяргей Міхайлавіч, ці верылі вы, што вашы падначаленыя не пакінуць шанцаў "Юнацтву" ні ў адным матчы?**

– Мяркую, пра такі зыход не мог марыць не толькі я, але і ўсе астатнія. Усім вядомы характар і сіла нашага саперніка, а таму мы вырашылі рыхтавацца да кожнага канкрэтнага матча па прынцыпе "будзе дзень – будзе што паесці".

**– Гэта каманда Захарава зараз такая слабая альбо "Нёман" такі моцны?**

– Нельга так ставіць пытанне. Лічу, што проста на гэтым этапе мы былі мацнейшыя. Так здараецца ў спорце.

**– Адсвяткавалі?**

– А як жа без гэтага?! Спачатку была афіцыйная частка, пасля – неафіцыйная. Традыцыйна запоўнілі кубак шампанскім, і ўсе пакаштавалі "смак перамогі". Гэта ў хакеістаў такая традыцыя, якую ніхто адмяняць не збіраецца. Пасля, дарэчы, сабраліся і адсвяткавалі падзею яшчэ і сваім "сямейна-хакейным" колам. Разыходзіліся пад раніцу.

**– Прэміяльныя ігракам і трэнерам нейкія будуць?**

– Безумоўна, усё ж было зараней прапісана. Дарэчы, дзякуй і гродзенскаму кіраўніцтву, і нашаму генеральнаму спонсару – мясцовай тытунёвай фабрыцы! Іх унёсак у перамогу таксама значны.

**– Самі не паліце цыгарэты?**

– Божа барані, мы ж здаровы лад жыцця прапагандуем!

**– Колькі ў вас адпачынак?**

– 10 красавіка каманда зноў збіраецца.

**– Вы – расійскі трэнер – як можаце ацаніць узровень беларускага чэмпіянату?**

– Я магу сказаць, што ёсць істотная розніца паміж камандамі, якія гуляюць у гэтым першынстве. Але казаць пра агульны ўзровень даволі складана. Можа быць, ён і не прагрэсіруе, але і пра нейкае падзенне казаць не даводзіцца. Адсутнасць росту заўсёды звязана з пэўнымі цяжкасцямі ў эканоміцы. Акрамя таго, хацелася б, каб больш з'яўлялася маладых таленавітых хакеістаў. А то атрымліваецца, што дзіцячыя школы быццам бы працуюць, але на выхадзе не вельмі шмат "якасных" хакеістаў, якіх адразу ж можна было б браць у асноўны склад каманды. І гэта таксама адна з праблем беларускага хакея…

**– Сяргей Міхайлавіч, у 1993 годзе вы сталі чэмпіёнам свету ў складзе зборнай Расіі. Хакей 1990-х моцна адрозніваецца ад сучаснага?**

– Мне падаецца, што сучасны хакей стаў больш агрэсіўны і жорсткі. Раней гульня трымалася больш на калектыўных дзеяннях ігракоў. А зараз гэта не заўсёды можна і ўбачыць.

**Алесь СІВЫ.**



**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

9 772071 964000 17027

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 3.04.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26 010 экз. Заказ № 1350.